наша
# свабода

№118(205) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

29 КАСТРЫЧНІКА 2001 года
ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас:
220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Задушым Расію ў абдымках?

Беларускія эксперты мяркуюць, што ў бліжэйшыя месяцы распачнецца новы тур палітычнага яднання з Расіяй. Пра гэта, у прыватнасці, было заяўлена на брыфінгу Беларускіх фабрык думкі, які прайшоў 25 кастрычніка ў Мінску з удзелам грамадскіх лідэраў, прадстаўнікоў дзяржаўных і недзяржаўных структураў, сродкаў масавай інфармацыі і дыпламатычнага корпусу.

Аналізуючы стан эканомікі і соцыума да прэзідэнцкіх выбараў і пасля іх, прэзідэнт аналітычнага цэнтра «Стратэгія», кандыдат эканамічных навук Леанід Заіка намеціў сцэнары эканамічнай палітыкі восені 2001-зімы 2002 гадоў. Сутнасць яго заключаецца ў тым, што праз 2-3 месяцы пасля выбараў узнікне натуральная дылема: ажыццявіць буйную грашовую эмісію або пачаць хуткі продаж значнай часткі дзяржаўнай уласнасці.

*Заканчэнне на стар.3*

## Ганчарыка – у адстаўку

У Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ), якая аб'ядноўвае больш за 30 галіновых прафсаюзаў краіны, працягваюць гучаць прапановы аб адстаўцы цяперашняга лідэра Уладзіміра Ганчарыка.

Першыя галасы незадаволенасці дзейнасцю Ганчарыка пачуліся ў Федэрацыі пасля яго рашэння балаціравацца на пасаду прэзідэнта Беларусі. Прычым, паводле наяўнай інфармацыі, асаблівую незадаволенасць праявілі члены прафсаюза работнікаў дзяржустановаў, на якіх аказваўся найбольшы ціск з боку ўладаў.

Як стала вядома БелаПАН, патрабаванне да Ганчарыка пайсці ў адстаўку прагучала і падчас нядаўняй яго паездкі ў Магілёў. Старшыня ФПБ заклікаў мясцовы прафактыў «адысці ад разгубленасці» пасля прэзідэнцкіх выбараў і прыступіць да вырашэння надзённых праблемаў. Прафсаюзы, заявіў Ганчарык, у рамках сваёй кампетэнцыі павінны неадкладна ўмяшацца ў сацыяльна-эканамічную сітуацыю, што пагаршаецца, стаць уплывовай грамадскай структурай, здольнай абараняць інтарэсы працоўных.

Гэтая тэма, аднак, не атрымала развіцця падчас сустрэчы. У адказ на выступленне Ганчарыка старшыні абкамаў шэрагу прафсаюзаў — работнікаў аграпрамысловага комплексу, аховы здароўя, лёгкай прамысловасці і работнікаў дзяржустановаў — запатрабавалі ад Ганчарыка пайсці ў адстаўку. Яны абвінавацілі лідэра ФПБ у тым, што ён уцягнуў прафсаюзы ў палітычную дзейнасць і гэта нанесла непапраўны ўрон сацыяльнаму партнёрству на ўсіх узроўнях.

Трэба адзначыць, што Уладзімір Ганчарык узначальвае Федэрацыю прафсаюзаў з 1986 года. Апошні раз ён быў перааабраны на гэтую пасаду, прычым аднагалосна, у кастрычніку мінулага года на трэцім з'ездзе ФПБ.

**Ірына ЛЕЎШЫНА**

# Жывая памяць пра ахвяры




Фота Ул.ШЛАПАКА

У нядзелю, 28 кастрычніка, каля тысячы чалавек прынялі ўдзел у шэсці ў Курапаты, каб ушанаваць памяць ахвяраў сталінскага тэрору, адзначыць свята продкаў—Дзяды. Арганізатарамі акцыі выступіла Кансерватыўна-хрысціянская партыя-БНФ.

Людзі неслі шмат крыжоў, каб устанавіць іх на месцы вечнага смутку. Бесперапынныя гукі звана суправаджалі шэсце да самага ўрочышча, дзе адбыўся жалобны мітынг, распачаты малітвамі за Беларусь і беларускую нацыю. Са зваротам адстойваць Курапаты звярнуўся да людзей в.а. старшыні КХП-БНФ Юры Беленькі, а таксама старшыня ТБМ Алег Трусаў.

**Ірына ТОЎСЦІК**

*Старшыні Савету міністраў Рэспублікі Беларусь Навіцкаму Г.В.*

## Зварот

Выказваючы заклапочанасьць абвастрэньнем сытуацыі вакол будаўніцтва Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі ў раёне ўрочышча Курапаты, мы патрабуем ад Савету міністраў Рэспублікі Беларусь неадкладна наладзіць публічны дыялёг паміж урадам, з аднаго боку, і ўсімі зацікаўленымі арганізацыямі, з другога боку, аб лёсе Курапатаў як гістарычна-культурнай каштоўнасьці 1-й катэгорыі. На час дыялёгу працы павінны быць прыпыненыя.

Перакананыя, што такі дыялёг аб лёсе нацыянальнай сьвятыні засьведчыў бы рэальную, а не наказную гатоўнасьць уладаў мяняць сваё стаўленьне да грамадзянскай супольнасьці.

Прынята на паседжаньні Кансультацыйнай рады апазіцыйных палітычных партыяў 24 кастрычніка 2001 г.

# Дзяржава – не маці, шмат не дасць

*Нашай краіне пагражае не нейкі знешні вораг, а звычайная бессардэчнасць свайго беларускага чыноўніка. У выніку непісьменнай дзяржаўнай палітыкі, якая праводзіцца ў дачыненні да маці і дзіцяці, насельніцтва нашай краіны можа істотна скараціцца. І тады пададуцца занадта аптымістычнымі прагнозы, паводле якіх у 2050 годзе ў Беларусі застануцца жыць толькі 8 мільёнаў чалавек замест сённяшніх 10.*

На ўсіх кутах дзяржава сцвярджае, што вельмі зацікаўленая ў павелічэнні колькасці маленькіх беларускіх грамадзянаў. Вядзецца паслядоўная праца па перакананні жанчынаў нараджаць дзяцей – і чым болей, тым лепей. Адначасова пры падтрымцы праваслаўнай царквы ў грамадстве фармуецца негатыўнае стаўленне да абортаў ды іншых шляхоў перарывання цяжарнасці.

Аднак ці сапраўды клапаціцца Беларусь пра маладых маці? Здаецца, што не. Становішча не змянілася з «пераабраннем» Аляксандра Лукашэнкі і прыходам новага ўрада Генадзя Навіцкага.

Як ні дзіўна, але агучыла новы дзяржаўны падыход да маладых мацярок жанчына – міністр працы і сацыяльнай абароны Антаніна Морава. З яе словаў, што яна выказала падчас выступу перад дэпутатамі Нацыянальнага сходу 26 кастрычніка, вынікае: дзяржава не дасць маладым маці памерці галоднай смерцю, але не болей за тое.

Дзяржаўнае агенцтва БелТА радасна адрапартавала з сустрэчы ўрада і «парламента», што «памеры дапамогаў па даглядзе за дзіцем будуць павялічвацца». Але ці ёсць насамрэч падставы для аптымізму?

*Заканчэнне на стар.3*



Фота Ул.ШЛАПАКА

## Інфляцыя ідзе на рэкорд

Паводле міністэрства статыстыкі і аналізу, за першыя тры тыдні кастрычніка рост спажывецкіх коштаў у краіне склаў 2% (за першы тыдзень – 1%, за другі — 0,4%, за трэці — 0,6%). Гэта самыя высокія тэмпы інфляцыі за апошні час. За першыя тры тыдні верасня кошты ўзраслі на 1,5%, жніўня — на 0,8%, ліпеня — на 1,4%, чэрвеня — на 1,9%, траўня — на 1,8%.

## Спрыянне Дзядам

З 24 кастрычніка па 4 лістапада Польшча ў сувязі са святам 1 лістапада Усіх Святых і Днём памінання памерлых спрасціла для шэрагу беларускіх грамадзянаў парадак перасячэння беларуска-польскай мяжы. Ім дастаткова прад'явіць замежны пашпарт і выдадзеную польскім Чырвоным Крыжам даведку, што на тэрыторыі Польшчы знаходзяцца магілы іх сваякоў.

## Што нас аб'ядноўвае?

Супрацоўнікі Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі звярнуліся да жыхароў краіны з пытаннем, што, на іхнюю думку, аб'ядноўвае людзей розных нацыянальнасцяў у Беларусі? 65% апытаных сказалі, што гэта агульная тэрыторыя пражывання, 33% — эканамічныя інтарэсы, па 28% — агульнае гістарычнае мінулае і агульную будучыню. 18% адзначылі роднасць культураў, 16% — мовы, 9% — рэлігіі.

## Энергазлодзеі

З пачатку гэтага года ў нашай краіне выкрадзена 35 мільёнаў кілават-гадзінаў электрычнай і 8.900 гігакалорыяў цеплавой энергіі. З-за гэтага ад сетак энергазабеспячэння былі адключаныя 10.719 спажыўцоў электрычнай і 19 спажыўцоў цеплавой энергіі.

## Разбэшчаныя в'етнамцы

Сёлета ў Беларусі да адміністрацыйнай адказнасці было прыцягнута ажно 1.405 грамадзянаў В'етнама, а яшчэ 17 выхадцаў з гэтай краіны праходзілі па крымінальных справах. Асноўныя правіны з боку в'етнамцаў – незаконная камерцыйная дзейнасць і нелегальная міграцыя.

## Вандроўкі да Прагі

Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, летась Чэхію ў якасці арганізаваных турыстаў наведалі больш як 17 тысяч беларусаў. А ўсяго нашыя суайчыннікі ступалі на чэшскую зямлю ў мінулым годзе каля 50 тысяч разоў.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**1520**

# Карупцыйны скандал разгараецца

*Ужо на гэтым тыдні Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) можа абвясціць пра стварэнне камісіі па расследаванні фактаў карупцыі сярод шэрагу апазіцыйных лідэраў. Да працы камісіі можа далучыцца і Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада.*

26 кастрычніка сарвалася паседжанне Палітычнага савета пры адзіным кандыдаце ў прэзідэнты. Менавіта на ім Мікола Статкевіч меркаваў ініцыяваць пытанне пра стварэнне «антыкарупцыйнай камісіі» – у адказ на публікацыю Аляксандра Фядуты ў «Белорусской газете» «Ужо насосались», у якой палітолаг абвінаваціў шэраг лідэраў апазіцыі ў выкраданні некалькіх мільёнаў доляраў. Гэтыя грошы даваліся Захадам на развіццё дэмакратычнага руху на Беларусі ды на выбары. У звязку з гэтымі абвінавачаннямі Мікола Статкевіч і прапанаваў стварыць камісію, якая занялася б рэвізіяй дзейнасці апазіцыйных структураў па расходаванні заходніх грантаў за 1995-2001 гады.

Аднак паседжанне Палітсавета не адбылося. М.Статкевіч звязвае гэты факт са з'яўленнем у прэсе інфармацыі, якая абвінавачвала ў карупцыі 6 чалавек з кіраўніцтва Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускага Народнага Фронту і «Хартыі-97».

М.Статкевіч паскардзіўся на тое, што вечарам 25 кастрычніка ў офісе ягонай партыі невядомыя выбілі шыбу: «Такая шляхетная прапанова – і такая рэакцыя: ветраны дэмакратычнага руху ўпадаюць у істэрыку, абзываюцца брыдкімі словамі, шыбы б'юць. Гэта ўплывае і на нашыя адносіны да кааліцыі: мы не можам уваходзіць у кааліцыю арганізацыяў, дзе ёсць людзі, якія напраму абвінавачваюцца ў крадзяжах... Мы гатовыя сядзець з гэтымі людзьмі за адным сталом, але каб, як кажуць, злодзеі прымалі абавязковыя для выканання ўсімі партыямі рашэнняў, – гэтага мы не можам дапусціць», — заявіў Мікола Статкевіч.

Старшыня Народнай Грамады публічна заявіў, што ўжо наступным тыднем будзе абвешчана пра стварэнне аднапартыйнай камісіі па расследаванні карупцыйнага скандалу. Магчыма, да ўдзелу ў ёй далучыцца і БСДГ Станіслава Шушкевіча. Прынамсі, са С.Шушкевічам такія перамовы вядуцца. Фактычна гэты дэмарш азначае першы крок на шляху да расколу шырокай грамадзянскай кааліцыі.

Калега М.Статкевіча па канфедэрацыі «За сацыяльныя перамены» старшыня Беларускай партыі працы Аляксандр Бухвостаў двойчы ставіцца да падобнай ініцыятывы. «З пункту гледжання неабходнасці стварэння даверу паміж суб'ектамі кааліцыі мы станоўча ацэньваем ініцыятыву Статкевіча. З другога боку, з раздуваннем гэтага вогнішча мы не зусім згодныя. Перш за ўсё, паміж сабой мусяць разабрацца грантадаўцы і атрымальнікі гэтых грошай. Таму мы і занялі пазіцыю неўмяшальніцтва», – патлумачыў Аляксандр Бухвостаў.

**Рыгор БУЯН**

# Задушым Расію ў абдымках?

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Для мадэрнізацыі беларускіх прадпрыемстваў будуць запрошаныя буйныя фінансавыя і прамысловыя структуры Расіі. Менавіта тады і пачнецца новы тур палітычнага яднання з Расіяй, абранне новага сумеснага парламента і новага палітычнага цыкла, што паменяе кардынальна становішча справаў у краіне.

На думку дырэктара Цэнтра даследаванняў будучыні, прафесара Аляксандра Патупы, пачынаючы з 1996 года ўладам удалося ў асноўных рысах рэставураваць адміністрацыйна-камандную эканоміку, эканоміку з яскрава выражаным дамінаваннем палітыка-адміністрацыйных элементаў над рынкавымі. Пры гэтым пастаянная псіхалагічная вайна з Захадам і ўласным прадпрымальніцтвам не дазволіла вырашыць праблему інвестыцыяў і адпаведнага павышэння канкурэнтаздольнасці ўласнай прадукцыі.

Адказваючы на пытанне журналістаў аб тым, калі ж да ведама грамадскасці будуць даведзеныя вынікі нацыянальнага сацыялагічнага даследавання, праведзенага прадстаўнікамі Беларускіх фабрык думкі пасля прэзідэнцкіх выбараў, намеснік дырэктара Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў Аляксандр Сасноў пабаяцаў зрабіць гэта пасля 2 лістапада. Падчас жа брыфінгу паведаміў, што вынікі прэзідэнцкіх выбараў, абвешчаныя ЦВК, значна не адпавядаюць вынікам праведзенага зандзіравання грамадскай думкі насельніцтва Беларусі. Ён таксама адзначаў значнае падзенне рэйтынга Аляксандра Лукашэнкі ў параўнанні з рэйтынгам Уладзіміра Пуціна.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ, БелаПАН**

# Баравы едзе абараняць дальнабойшчыкаў

*30 кастрычніка ў Маскве адбудзецца сустрэча міністраў транспарту Беларусі і Расіі Міхаіла Баравога і Сяргея Франка.*



Фота REX/ProMedia

Як паведаміў 26 кастрычніка на прэс-канферэнцыі ў Мінску Міхаіл Баравы, на правядзенні нерамовы настойвае беларускі бок. Асноўная тэма будучай сустрэчы — дазвольная сістэма, якую ўвяла Расійская Федэрацыя для беларускіх міжнародных аўтамабільных перавозчыкаў. Справа ў тым, што сёння беларускія перавозчыкі займаюць больш за палову рынку грузаперавозак у Расію з іншых краінаў.

Такая сітуацыя, па словах М.Баравога, не задавальняе расійскія транспартныя арганізацыі, якія зацікаўленыя ў скарачэнні паездак беларускіх перавозчыкаў. У выніку Расія пайшла на ўвядзенне квотаў на пасадкі аўтаперавозчыкаў з Беларусі, і зараз яны толькі да канца бягучага года маюць патрэбу ў атрыманні 7 тысяч дазволаў для праезду ў Расійскую Федэрацыю з трэціх краінаў.

М.Баравы спадзяецца, што падчас будучай сустрэчы са сваім расійскім калегам транспартнікам у рамках Саюзнай дзяржавы ўсё ж удасца знайсці кампраміс. «Мая пазіцыя адназначная — мы не можам сёння сказаць перавозчыкам, што тысячу транспартных сродкаў скарачаем, і выкарыстоўваць не будзем», — сказаў М.Баравы. Пры гэтым ён падкрэсліў, што айчынным перавозчыкам неабходна асвойваць не толькі расійскі, але і іншыя транспартныя рынкі, у першую чаргу, краіна ўсярэднеазіяцкага рэгіёна.

**Даведка.** Міжнародныя аўтаперавозкі застаюцца адной з найбольш адчувальных крыніцаў папаўнення валютных рэсурсаў Беларусі. Па выніках 2001 года ў краіне разлічваюць атрымаць ад экспарту толькі аўтатранспартных паслугаў каля 130 мільёнаў долараў ЗША.

За восем месяцаў бягучага года паступленні ад экспарту транспартных паслугаў склалі 92,8 мільёна долараў ЗША, што на 26,8% больш у параўнанні з гэткім жа перыядам мінулага года. Гэта выкліканае ў асноўным асваеннем беларускімі перавозчыкамі новых рынкаў паслугаў (сярэднеазіяцкі рэгіён, дзяржавы балканскага і скандынаўскага рэгіёнаў).

Удзельная вага экспарту аўтатранспартных паслугаў у агульным аб'ёме экспарту паслугаў складае больш за 12%, у аб'ёме транспартных паслугаў — каля 20%.

У цэлым цяпер у Беларусі перавозкі грузаў і пасажыраў аўтамабільным транспартам ажыццяўляюць больш за 32 тысячы перавозчыкаў. Аўтамабільным транспартам перавозіцца амаль 70% грузаў і каля 54% пасажыраў.

**Аляксей АРЭШКА**

# POST FACTUM

# Разбор фатальных памылак

«Беларусь пасля выбараў» — так называецца аналітычны бюлетэнь, які быў прадстаўлены 25 кастрычніка на брыфінгу ў Мінску аналітычнамі арганізацыі «Беларускія фабрыкі думкі».

У цэнтры ўвагі на брыфінгу быў аналіз памылак апазіцыі пры падрыхтоўцы і правядзенні прэзідэнцкіх выбараў. Найбольш паслядоўна гэтую тэму развіў супрацоўнік аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Валерый Карбалевіч. Ён выдзеліў некалькі найбольш значных памылак, зробленых кіраўніцтвам апазіцыйных партыяў, кааліцыяў і ініцыятываў. Гэтыя палітычныя сілы, на думку Карбалевіча, недаацанілі сацыяльную мадэль, створаную за сем гадоў кіравання Аляксандра Лукашэнкі, якая аказалася дастаткова арганізаванай і самадастатковай.

Акрамя таго, адзначыў Карбалевіч, апазіцыя пераацаніла ролю пратэстнага патэнцыялу грамадства і звязаную з ёю ўстаноўку на вызначэнне адзінага кандыдата як залогу змены ўлады. Беларускае грамадства, паводле яго словаў, аказалася палітызаваным у меншай ступені, чым меркавалі лідэры апазіцыі; многія галасавалі не за праграмы, а за асобу.

Не апраўдалася і меркаванне апазіцыі наконт таго, што ращаючую ролю ў выбарах адыграюць наменклатура, Расія і Захад. Выбары, паводле словаў Карбалевіча, паказалі, што беларуская наменклатура з'яўляецца не суб'ектам самастойнай палітыкі, а інструментам у руках аднаго чалавека.

Не апраўдалася таксама стаўка беларускай апазіцыі на з'яўленне «трэцяй сілы», якая знаходзіцца паміж уладай і апазіцыяй. Ні Наталля Машэрава, ні Леанід Сініцын не змаглі «перайграць» уладу, якаяператварыла ўсю краіну ў выбарчы штаб Аляксандра Лукашэнкі, заявіў Валерый Карбалевіч.

**Мікалай ГРАЧУХА**

# Масква яму толькі сьніцца

Міністар замежных справаў Міхаіл Хвастоў не абвяргае, што маскоўскі візыт Аляксандра Лукашэнкі можа быць прымеркаваны да сьвяткавання 10-годзьдзя СНД. Міністар таксама не абвяргае магчымага прызначэньня Уладзімера Замяталіна прадстаўніком Беларусі пры ЮНЭСКА ў Парыжы.

Сёлета 8 сьнежня Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў споўніцца 10 гадоў. Гэты першы юбілей кіраўнікі дзяржаваў СНД яшчэ на апошнім летнім саміце ў Менску вырашылі сьвяткаваць у Маскве. Магчыма, да гэтай агульнай сустрэчы будзе прымеркаваны і першы пасьля выбараў візыт Аляксандра Лукашэнкі ў сталіцу Расеі.

Нават пасьля тэрарыстычных актаў у ЗША беларускае дыпламатычнае ведамства заяўляла, што сустрэча Уладзімера Пуціна са спадаром Лукашэнкам плянуецца на кастрычнік. Аднак спадар Пуцін часу для гэтага не знайшоў.

Відавочна, што неабходнасьці сустракацца з Лукашэнкам Пуцін цяпер не мае. Пра гэта я размаўляў сёньня зь міністрам замежных справаў Беларусі Міхаілам Хвастовым. Ён перакананы, што сустрэча двух прэзыдэнтаў абавязкова адбудзецца.

*– Гэта будзе да 8 сьнежня ці вось якраз на саміт?*

– Няма нейкага падыходу такога, каб абавязкова гэта здарылася да ці потым. Зараз з расейскім бокам абмяркоўваем дакладныя даты.

Міхаіл Хвастоў дадаў, што «адбыліся вядомыя падзеі, якія зьмянілі сытуацыю ў сьвеце, і зьявіліся пытаньні, якія Расея, відаць, абмяркоўвае ў першую чаргу».

***– Міхаіл Міхайлавіч, ходзяць чуткі, што Замяталіна прызначаць у Парыж прадстаўніком пры ЮНЭСКА...***

– Запытайце ў Замяталіна, – адказаў міністар замежных справаў Міхаіл Хвастоў.

Нагадаем, што, паводле неафіцыйнай інфармацыі з МЗС, ад амбасадара Беларусі ў Францыі Уладзімера Сянько хочуць забраць яшчэ адну ягоную пасаду – прадстаўніка пры ЮНЭСКА, штаб-кватэра якое месьціцца ў Парыжы, – і прызначыць на гэтую пасаду Уладзімера Замяталіна, былога першага намесьніка кіраўніка прэзыдэнцкае адміністрацыі й цяперашняга беспрацоўнага.

**Юры СЬВІРКО**
**Радыё «Свабода»**

# ЗМОВЫ

# Лукашэнка не давярае сваім міністрам

У міністэрствах адукацыі і аховы здароўя рыхтавалася змова, скіраваная супраць кіраўніцтва краіны – такую выснову можна зрабіць з заявы Аляксандра Лукашэнкі, якую ён зрабіў падчас наведвання Магілёва ў мінулую пятніцу.

Там, адказваючы на пытанне пра лёс былых кіраўнікоў міністэрства адукацыі Васіля Стражава і міністэрства аховы здароўя Ігара Зелянкевіча, кіраўнік краіны зазначыў, што ён «не давярае мінуламу кіраўніцтву» гэтых ведамстваў. Менавіта таму на працягу паўтара месяца А.Лукашэнка шукаў ім замену.

Цяпер, відавочна, двум «экссам» не прапануюць ніякіх цёпленькіх месцейкаў побач з уладай. А які тыдзень таму, калі Генадзь Навіцкі прадстаўляў медыкам і настаўнікам іхніх новых кіраўнікоў, то казаў шмат гучных словаў пра былых міністраў. І абавязкова адзначаў, што ўлада, канешне, знойдзе для іх найлепшы ўжытак. Ужо не знойдзе?

Цікава таксама, што і Васіль Стражаў, і Ігар Зелянкевіч – не новыя людзі ва ўладзе. Ігар Зелянкевіч працаваў міністрам больш за 4 гады, а Васіль Стражаў увогуле заняў сваю пасаду ў жніўні 1994 года. Атрымліваецца, што беларускаму кіраўніку давялося вельмі доўга працаваць у «варожым атачэнні».

Але, падаецца, ёсць і іншая прычына ў замене двух міністраў. Сферы адукацыі і аховы здароўя – найбольш праблемныя, бо амаль цалкам фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту. Як яны фінансуюцца – ведае практычна кожны з нас, калі прыходзіць у школу на бацькоўскі сход або ў паліклініку па бюлетэнь.

Перад В.Стражавым і І.Зелянкевічам стаяла цяжкая задача – і фінансаванне для свайго ведамства штомесяц выбіваць, і нейк балансаваць, «не зарываючыся», у межах тых сумаў, што атрымлівалі медычныя і навучальныя ўстановы з бюджэтаў усіх узроўняў. Відаць, у рэшце рэшт, А.Лукашэнку надакучыла слухаць енкі абодвух пра недахоп грошай для сваіх галінаў. У выніку міністраў памянялі на менш галасістых.

Цяпер новым кіраўнікам давядзецца атрымліваць дзесяткі кілаграмаў цітыў ад «бюджэтнікаў» сваіх ведамстваў, у якіх ты будуць пытацца – калі ж словы начальнікаў, высокія і не вельмі, перастануць разыходзіцца са справай. І, хутчэй за ўсё, і пра гэтых міністраў калісьці скажуць «я ім не давяраю». І выкінуць за дзверы.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Дзяржава – не маці, шмат не дасць

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Па словах міністра, немагчыма забяспечыць сплату дапамогі маладым маці, што знаходзяцца ў пасляродавым адпачынку, да ўзроўню ў 100 долараў на месяц, як абяцаў А.Лукашэнка перад выбарамі. Пра такія сумы нават не ідзе гаворка.

Па словах А.Моравай, цяпер памер гэтай дапамогі складае 23 тысячы рублёў на месяц, гэта эквівалент 15 долараў. Аднак, як станоўчую з'яву, міністр адзначыла, што ўрад працуе над павелічэннем памеру дапамогі. У выніку ягоны памер складзе 65% ад бюджэту спажывецкага мінімуму – 34 тысячы рублёў на месяц (менш за 23 долары ЗША). Дапамога маці будзе сплачвацца дыферэнцыявана – у залежнасці ад сямейнага становішча жанчыны.

Афіцыйная біяграфія Антаніны Моравай замоўчвае факт, ці ёсць у яе дзеці. Але падаецца, што не. Бо інакш бы яна ведала, што ні 23, ні 34 тысячы пракарміць і сябе, і дзіця немагчыма. Канешне, ёсць яшчэ бацька, але нават калі ён будзе зарабляць абяцаныя тым жа А.Лукашэнкам 100 долараў на месяц (а сёння далёка не кожны мужчына-працоўны ў Беларусі мае такі заробак), то гэтай сям'і прыйдзецца вельмі цяжка.

Год таму шляхам эксперыменту адна знаёмая сям'я ў складзе трох чалавек – бацька, маці і немаўля – вызначыла, што каб нармальна сілкавацца і апранацца самім, а таксама траціць грошы на патрэбы дзіцяці, то іхняй сям'і патрэбна не менш за 500 (пяцьсот) долараў на месяц. І гэта не нейкія там «новыя беларусы» – звычайны «сярэдні клас», людзі, якія не будуць выкідаць грошы дарма. 500 долараў – гэта той мінімум месячнага даходу, пры якім можна сабе дазволіць нарадзіць дзіця. Нагадаем – гэтая сума была актуальная год таму. З таго часу курс долара змяніўся мала – а вось цэны ў беларускіх рублях скокнулі істотна ўверх.

Такім чынам, атрымліваецца: дзяржава сама стварае такія ўмовы, у якіх жанчына – калі ёй неабыякавы лёс свайго дзіцяці – ні за што не пагодзіцца нараджаць. Як толькі жанчыны Беларусі асэнсуюць, што не здолеюць пракарміць сваіх дзяцей – не кажучы нават пра «апрануць», – то ў маштабах краіны гэта будзе азначаць дэмаграфічную катастрофу.

**Ірына СТАРЦАВА**

# Патрабуем адкрытага працэсу!

24 кастрычніка 2001 года ў памяшканні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь пачаліся слуханні па справе аб зніненні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага. Гэты працэс мае вялікі рэзананс у грамадстве, бо датычыцца адной з гучных справаў, звязанай са знікненнямі грамадскіх і палітычных дзеячаў у Беларусі. Згодна з рашэннем Мінскага абласнога суда, які прыняў да вытворчасці справу, працэс абвешчаны закрытым. На яго не дапускаюць прадстаўнікоў грамадскіх, праваабаронных арганізацыяў, сродкаў масавай інфармацыі, назіральнікаў ад місіі КНГ АБСЕ ў Беларусі. Рада Праваабарончага цэнтра "Вясна" лічыць, што гэтым грамадзяне краіны пазбаўляюцца права на атрыманне праўдзівай інфармацыі аб выніках следства і ходзе працэсу па гэтай гучнай справе. Рада Праваабарончага цэнтра «Вясна» заклікае судовыя ўлады Беларусі забяспечыць адкрытае слуханне па справе аб зніненні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага з удзелам прадстаўнікоў грамадскасці і сродкаў масавай інфармацыі.

**Рада грамадскага аб'яднання Праваабарончы цэнтр «Вясна»**

# Кіно не будзе?

## Княгіні Анастасіі Слуцкай не пашанцавала

*Пасля з'яўлення летась фільма Міхаіла Пташука «У жніўні 44-га...», які ананcаваўся і мусіў стаць нацыянальным кіно, а аказаўся ўсяго толькі прыстойнай стужкай пра вайну, цяпер у нашым міністэрстве культуры і на «Беларусьфільме» гавораць пра новую спробу. Ці, калі заўгодна, спробу рэабілітацыі. Гэта гістарычна-патрыятычная меладрама «Анастасія Слуцкая».*

Летапісных згадак пра гэтую гістарычную асобу вельмі мала. У фільме расповед пойдзе пра тое, як пасля смерці князя Сямёна Алелькавіча на Слуцк абрынулася 20-тысячная крымска-татарская навала. Але на чале абароны горада паўстала княгіня Анастасія, і ворагі адступілі.

На мой званок і просьбу аб інтэрв'ю запрошаны здымаць «Анастасію» рэжысёр Уладзімір Янкоўскі, сын Расціслава Янкоўскага, у роспачы адказаў, што «кіно не будзе – грошай няма». Такім чынам, пасля некалькіх месяцаў размоваў, што гэта будзе за фільм, само ягонае стварэнне апынулася пад пагрозай зрыву ці, прынамсі, затрымкі на невядомы час. Прычына – мізэрнае фінансаванне. Са словаў рэжысёра, толькі на самым мінімуме на гэты фільм патрабуецца 3 мільёны долараў. З адным мільёнам, трацінай ад таго, што трэба, пачынаць здымаць фільм нельга: «у мяне адных татараў толькі паўтары тысячы, і горад цэлы трэба пабудаваць». Фільм будзе здымацца менавіта ў антуражы адмыслова пабудаванага для яго на старажытны ўзор драўлянага горада. Ягоны макет, як і сцэнарый фільма, ужо гатовы.

Пошукі іншых крыніцаў фінансавання здымак фільма плёну не далі. Напрыклад, беларускія бізнесоўцы, гаворыць У.Янкоўскі, гатовыя даць усяго каля 100 тысяч долараў.

На такія грошы адно што мультыплікацыю можна рабіць ці кліпы здымаць, а ніяк не буйныя поўнаметражныя мастацкія кінастужкі. Дарэчы, Уладзімір Янкоўскі да запрашэння заняцца «Анастасіяй» ніводнага поўнаметражнага мастацкага фільма не зняў. Адно што былі некалькі тэлефільмаў на замову аднаго з расійскіх каналаў. Збольшага ён здымаў кліпы – як на песні эстрадных выканаўцаў (прыкладам, Філіпа Кіркорава), гэтак і рэкламныя. Усяго іх на рахунку У.Янкоўскага ўжо пад трыста. У гэтай сферы на прасторах СНД ён лічыцца прафесіяналам знаным, неаднаразова браў міжнародныя прызы. Што да, так бы мовіць, вялікай рэжысуры, то беларускія кінематаграфісты па-рознаму – і з сумневам і без яго – ацэньвалі шанцы У.Янкоўскага зняць добры фільм.

У фільме, як заяўлялі міністр культуры Леанід Гуляка і сам рэжысёр, павінны зграць пераважна беларускія акцёры. Праўда, маўляў, будуць і расійскія «зоркі». Хай сабе, каб толькі не было так, як «У жніўні 44-га...», дзе беларускіх акцёраў было шмат, але ўсе яны былі задзейнічаныя на ролях другога плана ці ў эпізодах. Галоўныя ролі былі аддадзеныя нетутэйшым акцёрам.

Было б няблага і, у прынцыпе, лагічна, калі гаворка ідзе пра нацыянальны кінапраект, каб персанажы «Анастасіі Слуцкай» гаварылі па-беларуску. А дзеля паказаў карціны за мяжой можна было б зрабіць дубляжы, у тым ліку і расійскі.

Нядольнасць знайсці ў краіне грошай хоць бы на адзін суперфільм зноў змушае разважаць над беднасцю беларускай культуры, і ў прыватнасці, кінематографа. Гэта стала ўжо нечым накшталт дыягназу. Памятаецца, з-за скандалаў (нязгодны з рэжысёрскай інтэрпрэтацыяй свайго рамана пісьменнік У.Багамолаў запатрабаваў зняць сваё імя з тытраў фільма) і фінансавых праблемаў прэм'ера пташукоўскага блокбастэра пераносілася з розных датаў разы з тры. Тым не менш, фільм пра савецкія спецслужбы з дзесяткам фразаў па-беларуску дзякуючы толькі таму, што дзеянне ў ім адбываецца на тэрыторыі Заходняй Беларусі, усё ж такі выйшаў на экраны. Але ледзьве не ўсе рэсурсы «Беларусьфільма» былі кінутыя на яго, і па вялікім рахунку з-за гэтага ў амаль двухгадовым прастоі аказаліся астатнія беларускія рэжысёры.

Прычым «У жніўні 44-га...» – гэта быў сумесны беларуска-расійскі праект. Натуральна, на здымкі «Анастасіі Слуцкай», сюжэт якой грунтуецца на беларускай гісторыі, Расія не магла даць, не дала і не дасць ні рубля. Колькі б беларускія ўлады ні апелявалі, маўляў, у нас жа Саюз! А тых 1,4 мільярда рублёў, 400 мільёнаў сёлета і 1 мільярд у наступным годзе, якія абяцана выдаткаваць на «Анастасію Слуцкую» ўказам прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, і блізка не хопіць. Гэта меней 1 мільёна долараў. Нават па беларускіх мерках замала. На той жа не стаўшы хоць бы і з нацяжкай узорам нацыянальнага кіно «У жніўні 44-га...» пайшло ў некалькі разоў болей. У некалькі разоў таксама па памерах фінансавання «Анастасіі» мы значна адстаем нават ад Украіны, дзе зараз здымаюць кінастужку пра Мазепу. А палякі ў фільм Ежы Гофмана «Агнём і мечам» уклалі наогул 40 мільёнаў долараў.

Меркавалася, што здымкі мусяць распачацца наступнай вясной. Завершыцца яны павінны да канца 2002 года. Будзем спадзявацца, што ўсё будзе па плане, і вынікам гэтага праекта мы нарэшце пабачым файнае беларускае кіно.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

**УРАЧЫСТАСЦІ**

## Школа просіць за паэта

На сядзібе былога кляштара місіянераў у вёсцы Лыскава Пружанскага раёна, дзе ля сцяны Троіцкага касцёла быў пахаваны ў 1825 годзе Францішак Карпінскі, прайшлі ўрачыстасці з нагоды 260-годдзя гэтага паэта, драматурга і публіцыста. Ён меў ступень доктара філасофіі і свабодных навук, адкрыў у Лыскаве народную школу і тут настаўнічаў, у 1806 годзе падараваў свой кнігазбор Свіслацкай гімназіі. Будучы арандатарам у фальварку Хораўшчына, Ф.Карпінскі замяніў паншчыну на чынш (грашовую рэнту).

У Лыскава прыехалі настаўнікі і вучні польскамоўнай Ваўкавыскай СШ №8, якая зараз просіць мясцовую ўладу аб наданні іхняй навучальнай установе імя Карпінскага. Госці з Гродзеншчыны разам са святарамі і тамтэйшымі вернікамі, сваімі аднагодкамі са школы ў Поразаве спявалі ў касцёле не забытыя і па сённяшні дзень песні паэта, чыталі яго вершы, пачулі рэферат Ядвігі Гляkoўскай аб творчасці Ф.Карпінскага.

Акрамя як у Ваўкавыску, Лыскаве і Поразаве, святкаванні юбілейных угодкаў літаратара адбыліся ў Варшаве і 28 кастрычніка пройдуць у мясцінах яго народзінаў – у Івана-Франкоўскай вобласці Украіны. Такім чынам, тры суседнія народы ўшаноўваюць памяць пра адукаванага і прагрэсіўнага чалавека свайго часу.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

**ПРЭМІІ**

## Прэтэндэнты на саюзнае лаўрэацтва

Пяць дзеячаў культуры Беларусі вылучаныя на суісканне прэміі Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі за творы літаратуры і мастацтва, якія ўносяць вялікі ўклад ва ўмацаванне адносінаў брацтва, дружбы і ўсебаковага супрацоўніцтва паміж дзяржавамі-ўдзельніцамі Саюзнай дзяржавы.

Такое рашэнне прынятае на паседжанні калегіі міністэрства культуры.

Суіскальнікамі прэміі зацверджаныя: драматург, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Аляксей Дудараў, харэограф-пастаноўшчык, народны артыст СССР і Беларусі Валянцін Елізар'еў, народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, кінарэжысёр-пастаноўшчык, народны артыст Беларусі Міхаіл Пташук і кінааператар-пастаноўшчык Уладзімір Барышкоў.

Прэмія, заснаваная ў гэтым месяцы, і будзе прысуджацца раз у два гады. Узнагароды будуць уручацца на свята – Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі, якое адзначаецца 2 красавіка.

**БелаПАН**

# Выключны талент, выбітны чалавек

*Выстава, прыўрочаная да 60-годдзя беларускага мастака Аляксея Марачкіна, адкрылася ў Палацы мастацтва.*



Гэтая выстава працаў мастака мелася адбыцца год таму, у юбілейны год Марачкіна. Аднак з розных прычынаў толькі цяпер мы можам пабачыць амаль увесь творчы шлях Марачкіна, прадстаўлены яго карцінамі з 60-ых гадоў. Разам з юбілейнай выставай мастака, аднаго з пачынальнікаў суполкі «Пагоня», прадстаўленая выстава 6-га нацыянальнага пленэра імя Язэпа Драздовіча. І нібы ў абдымках Аляксея Антонавіча, ёсць выстава твораў сябраў «Пагоні», якая не мела іншай магчымасці, акрамя гэтай, адзначыць свой 10-гадовы юбілей. Такім чынам, апынаешся адразу на трох выставах.

Аляксей Марачкін (на палотнах – Алесь Марак) так акрэсліў канцэпцыю сваёй выставы:

– Мая выстава – гэта своеасаблівы археалагічны артраскоп. Не можна выкрэсліць са свайго жыцця аніводнага дня, аніводнай хвіліны, усё, што было з табою, – тваё, і гэтыя аскепкі маіх творчых трызненняў я не імкнуся склеіць у адно цэлае. Яно ніколі не атрымаецца. З фрагментаў мінулага складаецца цэлае жыццё, фрагменты мінулага мяне цікавяць як вяртанне ва ўчарашні дзень, які ніколі ўжо не паўторыцца, і ў сваіх ранніх працах заўважна тое, чаго няма ў апошніх.

Сёння мы свае творы пакрываем таварным глянцам камерцыйнага мастацтва, каб дагадзіць пакупніку. Мастацкую форму дыктуюць халодныя сцены офісаў і банкаў і на гэтым шляху чаго болей: здабыткаў ці стратаў?

Нонканфармізм твораў апошніх гадоў правакуе сённяшні час. Творца не павінен прагібацца перад уладаю і заўсёды павінен памятаць сказанае Каліноўскім, што не народ для ўлады, а ўлада для народа.

– Цяпер такі час, што патрабуе змагання і не дазваляе расслабляцца, бо занадта выразна адчуваецца цяпер святло і цень, асабліва цень. І якраз мастацтва найбольш поўна адлюстравала гэты час.

Пра Аляксея Марачкіна кажуць яго сябры, калегі і дзеячы культуры.

**Мікола КУПАВА, старшыня суполкі «Пагоня»:**

– З удзельнікаў «Пагоні» Аляксей Марачкін вылучаецца сваім грунтоўным вопытам, што немалаважна ў параўнанні з іншымі мастакамі. Ён прайшоў вельмі пакручасты шлях у мастацтве. Ім створаныя творы, пачынаючы ад «Рагнеды», «Еўфрасінні Полацкай» і аж да сённяшняга «Мірона». Вось такі канцэптуальны погляд у яго на мастацтва і такі рэальны плён. Чалавек паставіў на мэце паказаць гісторыю Беларусі ў вобразах выдатных дзеячаў. Гэта толькі адзін бок яго творчасці, бо ёсць і прырода, і нацюрморт, і краявід, і фальклор, і міфалогія. Гэта такі дыяпазон, які ўласцівы творцу.

Цяпер складаная сітуацыя ў сферы культуры, але той, хто хоча, хто працуе, нечага дабіваецца. Гэта якраз прыклад, які сведчыць пра тытанічную працу і незвычайны талент, вялікі ўклад энергіі ва ўсю працу.

**Вячаслаў РАКІЦКІ, тэатразнаўца:**

– Для мяне гэтая выстава – 10 гадоў апошніх майго жыцця, бо зноў тут я бачу людзей, якія прайшлі шлях ад здабыцця незалежнасці да сённяшняга дня. Гэтыя карціны, мабыць, і распавядаюць пра сутнасць настрою Беларусі, беларускага інтэлігента. Аляксей Марачкін – гэта адзін з тых людзей, з якімі я пражыў гэтыя складаныя, важныя гады, таму я радуюся, што ў гэтай зале шмат людзей і шмат карцінаў. Гэта, у рэшце рэшт, наша жыццё, жыццё тых людзей, хто называе сябе інтэлігентамі.

**Алесь КАМОЦКІ, бард:**

– І я сам бы хацеў так у 60 гадоў маляваць. Уражвае, вядома, што чалавек зрабіў столькі цікавага. Ён энергічны проста на зайздрасць. Каб такіх людзей было болей, то жылі б усе значна лепш.

**Яўген КУЛІК, мастак:**

– Такой унікальнай выставы, якую зрабіў Алексей Марачкін, не было ў гэтай зале, колькі яе памятаю. Ён выставіў не ўсе свае творы, але найбольш вартыя ўвагі, тут многа шэдэўраў. І тое, што ён далучыў да гэтай выставы сваіх супольнікаў па «Пагоні», гэта надало выставе своеасаблівасць, адметнасць. Тут ёсць афішы фактычна ўсіх юбілейных вернісажаў суполкі. Гэта таксама дадае такі дакументальны цікавы штрых, як і пліта-шыльда, на якой выгравіраваныя словы аб абвяшчэнні незалежнасці БНР, яна зробленая ў 1993 годзе (да 75-годдзя абвяшчэння незалежнасці БНР), але так і не ўстаноўленая на належным будынку, дзе сапраўды адбывалася абвяшчэнне (Валадарскага, 9). Гэтая рэч дэманструецца на кожнай выставе. Я рады за свайго сябра, аднадумца, паплечніка. Зычу доўгіх гадоў жыцця і не меншага плёну, чым сёння.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ, гісторык:**

– Я Марачкіна сто гадоў ведаю. Мне вельмі цікава карціны яго глядзець. Самая прыгожая «Два львы» – пад народны дыванчык, «Мірон» спадабаўся. Мастак выяўляецца ў сваіх карцінах, праз творы я мяркую пра чалавека. Глядзіце самі. Марачкін – чалавек выбітнай душы.




**Уладзімір АРЛОЎ, пісьменнік:**

– Сучасную Беларусь у яе не толькі мастацкім, але і палітычным краявідзе немагчыма ўявіць без асобы Марачкіна, мастака, асобы грамадзянскага гучання. Упершыню з творамі Марачкіна пазнаёміўся ў гады студэнцтва, калі адбывалася самаўсведамленне маёй беларускасці. І з таго часу яго жывапіс стаў для мяне часткаю Беларусі, як прырода. Яны прысутнічаюць увесь час у маёй свядомасці.

**Уладзімір СУЛКОЎСКІ, мастак:**

– Мы знаёмыя з Аляксеем з 68-га года, разам вучыліся ў адной майстэрні Ахрэмчыка, толькі ён на пару гадоў быў старэйшы. Тады і пачаў ён эскізы да карціны «Гуканне вясны». Так здарылася, што дыпломную працу Марачкін мусіў маляваць на тэму: «Гутарка з аўтазаводцамі». Калі прасачыць па ўсёй выставе, то тэма фальклору ў яго выявілася ў цэлым серыяле «Песняў» па матывах беларускіх песень і балад, што дало магчымасць выйсці на новую якасную ступень у творчасці. Тут ёсць карціна, дзе выяўленая дзяўчына ў абсалютна фальклорным успрыманні, вось адтуль ідуць у яго павы... Гэта вельмі прыгожыя тэмы. У Марачкіна некалькі накірункаў творчасці, якія ён развіваў, і ўсе атрымалі лагічнае развіццё. Вельмі цікава і нечакана для гледачоў тут паказаныя акварэлі – новы цыкл «Дафніс і Хлоя» па Апулею. Наогул вельмі ўдала прадстаўленая графіка.

Многія ведалі, што Марачкін – выдатны малявальшчык у такой сучаснай манеры, але ў такім аб'ёме – першы раз. Сама выстава мае назву «Разам з «Пагоняй», такой практыкі (з'яднання прац мастакоў) у нас яшчэ не было, гэта першая спроба. Вельмі рады, што мой харошы сябар і таварыш спраўляе такі юбілей.



**Ірына ТОЎСЦІК,**
**фота Ул.ШЛАПАКА**

НАУКА

## Усё пачалося ў 1921-ым

30 кастрычніка Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту споўніцца 80 гадоў. У гэты дзень у 1921 годзе адбылося ягонае афіцыйнае адкрыццё. Першым ягоным рэктарам быў Уладзімір Пічэта, першы набор студэнтаў быў арганізаваны на рабочы факультэт, а большая частка прафесарска-выкладчыцкага складу БДУ таго часу паходзіла з Маскоўскага, Казанскага і Кіеўскага універсітэтаў.

Сёння БДУ – самая буйная і самая прэстыжная навучальная ўстанова ў краіне, дзе за час яе існавання вышэйшую адукацыю набылі-каля 120 тысяч спецыялістаў. Зараз тут навучаецца 16,3 тысячы студэнтаў, траціна з якіх аплачвае сваю адукацыю самастойна, а яна тут адна з самых дарагіх у краіне. Штогод толькі 1.900 чалавек набіраюцца на бясплатную форму навучання. Аднак на патоку абітурыентаў гэта не адбіваецца, і сёлета тут быў самы высокі конкурс за некалькі апошніх дзесяцігоддзяў – 3,5 чалавека на месца.

Найбольшай папулярнасцю карысталіся замежныя мовы — у сярэднім не менш за 5 чалавек на месца, а на «сучасную англійскую мову і літаратуру» конкурс дасягаў 10 чалавек, на «кітайскую мову і літаратуру» – 6,4, далей па рэйтынгу ішлі эканамічныя спецыяльнасці. Што характэрна, «руская мова і літаратура» ў ім саступае «беларускай мове». Увогуле набор у гэтым годзе ажыццяўляўся па 20 факультэтах і 49 спецыяльнасцях.

кантрольны тэст, вынікі якога будуць уплываць на канчатковую іспытавую адзнаку. Цяпер ацэнка ведаў будзе праводзіцца праз апытанне па ўсім курсе прадмета. Але «здаць і забыць» у студэнтаў ужо не атрымаецца, бо яшчэ праз паўгода іх веды па прадмеце зноў пракантралююць, і толькі гэты вынік стане канчатковым.

З нядаўняга часу студэнтам і выкладчыкам у памяшканнях універсітэта і інтэрнатах забаронена паліць. Пакуль усе ВНУ беспаспяхова, хто як можа змагаюцца з паўсюдным паленнем студэнтаў, рэктар БДУ перайшоў да радыкальных захадаў – за паленне па-за курылкамі выкладчыка тут звальняюць з працы, а студэнта выключаюць з універсітэта. Па словах Аляксандра Казуліна, пад ягоную гарачую руку пакуль патрапілі толькі 15 чалавек, якія палілі ў інтэрнаце: яны пазбавіліся інтэрнатаўскіх месцаў. Жорсткі падыход ён паабяцаў і іншым парушальнікам. Па ягоных планах да лета з паленнем у сценах універсітэта будзе скончана.

Добра, што такія радыкальныя меры пакуль не прымаюцца адносна тых, хто на выбарах прэзідэнта прагаласаваў не за А.Лукашэнку. Кажуць, што за тое, што да 70% БДУшных інтэрнатаўскіх студэнтаў выказалі яму сваё «супраць», універсітэт пазбавіўся незалежнасці ад міністэрства адукацыі, а рэктар — міністэрскага крэсла.

Маючы вызваленне ад уплаты падаткаў у бюджэт ад гаспадарчай



З 2000 года БДУ першым перайшоў на шматузроўневую структуру падрыхтоўкі спецыялістаў: праз 4 гады навучання студэнт атрымлівае званне бакалаўра, праз 5 гадоў становіцца дыпламаваным спецыялістам, а праз 6 гадоў – магістрам.

Разам з гэтым змены напаткаюць і сістэму навучання студэнтаў. Са слоў рэктара БДУ Аляксандра Казуліна, кожны з выкладчыкаў павінен выдаваць аўтарскі курс лекцыяў, метадычныя вучэбныя дапаможнікі, якія і прыйдуць на змену студэнцкім канспектам. Між тым, гледзячы па ўсім, «халявы» ў студэнтаў стане меней. Як распавёў Аляксандр Казулін, штотыдзень па кожным прадмеце яны павінны будуць пісаць зрэзавы

і камерцыйнай дзейнасці, а таксама атрымліваючы рэгулярна бюджэтную дапамогу, БДУ разгарнула шырачэзную рэканструкцыю старых сваіх карпусоў і будаўніцтва новых. Вакол будаўніцтва корпуса факультэта міжнародных зносінаў разгарнуўся цэлы скандал, бо пад яго Мінгарвыканкамам была выдзелена пляцоўка каля рэстарана «Макдональдс», што знаходзіцца на Прывакзальнай плошчы, і было прынятае рашэнне аб скасаванні дамовы арэнды з рэстаранам, заключанай раней на 39 гадоў. Па словах Аляксандра Казуліна, гэтая праблема ўжо вырашаная, кансенсус знойдзены і рэстарану будзе выплачана пэўная кампенсацыя.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Женщина и сигарета

*В начале прошлого века курящая женщина выглядела подобно белой вороне. Эти времена, увы, прошли. По данным Всемирной организации здравоохранения, на нашей планете курят 12% женщин. А у нас женское курение приобрело характер настоящей эпидемии: в возрасте 30-35 лет курят 14% женщин, а до 30 лет – 26%.*




Она не курит

Распространение курения среди слабого пола привело к тому, что некоторые заболевания, которые раньше считались «мужскими», стали обычными и для женщин. Даже рак легких у женщин теперь занимает одно из первых мест среди других злокачественных новообразований. Но настоящей бедой стало пагубное действие курения на потомство. Практически все слагаемые детородной функции страдают от токсических веществ, содержащихся в табачном дыме, особенно от никотина, угарного газа, канцерогенов, тяжелых металлов и радиоактивных изотопов.

Мужские половые клетки – сперматозоиды самообновляются каждые три месяца, а женские яйцеклетки – своего рода долгожители. Их жизнь исчисляется 12-55 годами. Из-за этого они накапливают много токсических веществ, в том числе и компонентов табачного дыма. Природа в какой-то мере позаботилась о самозащите: отравленные токсинами половые клетки теряют способность к оплодотворению. Но такая самозащита часто оборачивается серьезными негативными последствиями. Среди женщин, выкуривающих десять и более сигарет в день, бесплодие встречается вдвое чаще, чем среди некурящих. Почти у трети курящих женщин наблюдаются те или иные отклонения в месячном цикле, у 36% беременность не наступает в первые пять лет замужества, а 15% имеют ранние выкидыши.

Недавно медиками был обнаружен еще один очень неприятный факт. Оказалось, что курение и гормональные противозачаточные препараты несовместимы. У курящих женщин, пользующихся подобными средствами, в 38 раз (!) увеличивается риск сердечно-сосудистых заболеваний, в том числе инфаркта миокарда – в 4,3 раза.

Токсичность химических соединений, содержащихся в табачном дыме, многократно возрастает во время беременности, особенно в первые три месяца. У лабораторных животных, которым давали никотин в самом начале беременности, нарушалось дробление оплодотворенной яйцеклетки, затруднялась имплантация зародыша в стенку матки. Аналогичные осложнения происходят и у курящих женщин. По данным гинекологов, ранние выкидыши встречаются почти в 2 раза чаще у курящих, чем у некурящих. Более того, специальный анализ околоплодной жидкости курящих показывает, что в ней имеется как сам никотин, так и его продукт расщепления – котинин.

Табачные токсины уже через пять секунд из организма матери поступают в кровяное русло плода, избирательно накапливаясь в мозге, сердце, почках, миндалинах будущего ребенка. Серьезно страдают и обменные процессы. Замедляется формирование костей из-за снижения темпов отложения кальция. Ухудшается синтез веществ, необходимых для активно делящихся клеток, разрушаются витамины, страдает белковый обмен. Вот почему у появившихся на свет детей нередки малые размеры сердца, сужение кровеносных сосудов.

Курение негативно сказывается на течении беременности. У курящих женщин почти в два раза чаще по сравнению с некурящими наблюдаются кровотечения, снижение веса плаценты. Мертвые дети у курящих женщин рождаются в четыре раза чаще, чем у некурящих. А родившиеся дети весят меньше нормы в среднем на 7-8%. Считается, что в 12% случаев выкуривание 5-10 сигарет в день провоцирует преждевременные роды.

Табачные токсины нарушают генетический аппарат. Это неудивительно: при каждой затяжке примерно 300 триллионов свободных радикалов устремляются в организм.

### Советы

Ученые утверждают, что выкуривающему по пачке сигарет ежедневно потребуется по крайней мере пять лет, чтобы полностью очистить свою сердечную мышцу от никотина. Однако если вы заядлый курильщик и не можете бросить курить, то вам рекомендуют курить «по-умному». Вот советы.

1. *Пейте больше воды.* Заядлым курильщикам рекомендуется пить не менее литра воды в день, желательно слабоминерализованной. Это позволяет быстрее вывести токсины, стимулировать работу почек, избежать концентрации никотина в моче, а следовательно, негативного его воздействия на мочевой пузырь.

2. *Гасите сигарету, докурив до середины.* Чем ближе к концу, тем дым сигареты становится гуще и вреднее.

3. *Пользуйтесь сигаретами с фильтром.* Он задерживает свыше 30% содержащегося в сигарете никотина. Еще лучше пользоваться сигаретами с угольным фильтром, который адсорбирует на себя и никотин, и вредные смолы.

4. *Не держите сигарету постоянно во рту.* Выделяемые сигаретой токсичные газы пагубно воздействуют на кожу лица.

5. *Умеренно занимайтесь спортом.* Усиленные занятия спортом опасны для курильщика. Физическая нагрузка ускоряет работу сердца, а никотин сужает артерии, препятствует току крови от сердца.

6. *Старайтесь избегать ментоловых сигарет.* Присутствие ментола усиливает едкость некоторых токсичных элементов, содержащихся в табаке.

7. *Предпочтительнее курить черный табак.* Светлый табак вреднее черного, так как для его производства применяются красители, ароматизаторы и консерванты.

8. *Используйте естественные противоядия табачному дыму.* Эффективными против никотина являются такие овощи и фрукты, как морковь, чеснок, апельсины.

9. *Пейте зеленый чай.* Именно зеленый чай содержит вещества, способные очищать бронхи от никотина.

10. *Употребляйте витамины.* Содержащиеся в табаке токсины содействуют возникновению в организме человека болезнетворных молекул, обуславливающих раковые заболевания. Чтобы нейтрализовать их, необходимо регулярно принимать витамины E, C и D, а также селен. Курильщикам рекомендуются: черная смородина, абрикосы, инжир, виноград, яблоки, груши, дыня, тыква, капуста, салат, баклажаны.

**Владимир ЩЕРБАКОВ**
**utro.ru**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 29 октября – 4 ноября

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***

**ОВЕН.** Всю неделю вы будете размышлять с супругом или партнером о том, как быть дальше в этой жизни, как вести дела с пользой для семьи. Решение придет неожиданно. Не исключено, что кто-то «засветится» на экране или в средствах массовой информации, причем с целой командой. Вступайте в союзы и коалиции, играйте, участвуйте в шоу, наносите визиты вежливости.

**ТЕЛЕЦ.** Придется потрудиться, но работа будет приятной. Роль связующего звена между коллегами, соучениками вам удается. Мало того, кто-то «сколотит» хорошую компанию, в выгодном свете представит коллектив высокой публике. Пояса пока придется затянуть туговато, однако на мелкие расходы средств хватит. Отличное время налаживать мосты и вести переговоры, особенно в четверг.

**БЛИЗНЕЦЫ.** Супружество остается не у дел, зато романтически любовная жизнь бьет ключом. Кто-то находит радость и любовь в детях. Расцветает политический или дипломатический талант. В любом случае, вдохновенное настроение, преследующая Муза заставит вас поверить в чудеса, особенно в четверг. Отличный период для проведения культурных мероприятий, выход в свет, а может быть – и за границу.

**РАК.** Здоровье и мироощущение оставляет желать лучшего, многое мешает и часто от вас не зависит. Однако близкие и родственники готовы подставить плечо, увлечь приятными и легкими заботами, домашним торжеством. Смена обстановки или мебели – и вот перед вами новая жизнь. За что бы вы ни брались, следует думать об основах, фундаменте стоящих задач. Вероятно, кто-то совершит великое открытие в четверг.

**ЛЕВ.** Вы блеснете во всей своей красе. Вполне можно устраивать приемы и публичные представления. Приобретайте кибитку для командировок или коммерческих разъездов. Неудачи в личной жизни или здоровье детей удручают более всего, но эти проблемы так сразу не решить – все еще длится полоса испытаний. Чем более размеренно и взвешенно вы ведете себя, без эксцессов, тем выше шанс удачи, особенно в четверг.

**ДЕВА.** В начале недели тайные враги подготовили «сюрприз». У вас грандиозные перестройки, направленные на обустройство родных и близких, собственного очага. Кто-то готов сменить место жительства или кабинет, однако есть вероятность, что это продлится всего год. По месту работы намечаются небольшие финансовые поощрения, или же — приобретение красивых и полезных вещей, в частности – в четверг.

**ВЕСЫ.** Порой средств не хватает на самое необходимое из-за стремления охватить необъятное. Нежелательно заниматься глобальными проектами, поскольку они отнимут слишком много энергии, а результат совсем даже неочевиден. Если есть возможность – путешествуйте, обращайтесь в международные, образовательные, туристические и культурные учреждения, где найдете много друзей и новые возможности.

**СКОРПИОН.** Придется вести аскетичный образ жизни, уйти на время в «монашескую келью», своего рода отставку. Необходимы отдых, зрелые и взвешенные рассуждения о главных и насущных задачах. Откуда ни возьмись – появляются друзья, как новые, так и старые, которые слегка облегчают бремя житейских забот. Кому-то грамотно предскажут судьбу, особенно в четверг, а у кого-то лично проснутся необычные способности.

**СТРЕЛЕЦ.** Супруг не балует внимательным отношением, скорее – вам приходится отвечать и за себя, и за него. Для кого-то соблазнителен гражданский брак. В открытую обозначаются враги, конкуренты. Вам придется заниматься организацией мероприятий нового типа, может быть – с участием разного сорта публики. Вероятно даже неожиданное почетное вознаграждение за труд несколько авантюрного плана.

**КОЗЕРОГ.** Вы все еще не верите в чудеса, все кажется циничным и понятным. Может быть, кто-то даже тяжело переболеет. Но в профессиональном плане ситуация выравнивается. Вероятно, будете вести переговоры о новых возможностях в карьере. Если дают нечто в четверг – берите, если сами готовы кого-то наградить – дерзайте и не медлите. Дипломатично выверяйте свои действия, размеренно и последовательно.

**ВОДОЛЕЙ.** В любви у вас, конечно, салюта не предвидится. Вообще, какая-то крупная игра ведется вокруг вашего любимого или ребенка — поосторожнее. В среду желательно исключить финансовые операции – запутаетесь или обманетесь. Издалека напомнит о себе важный для вас человек, а может быть – полетите в гости. В четверг смотрите дальше и делайте ставку на человека высокого уровня по развитию.

**РЫБЫ.** Достаточно трудно делать нечто важное и глобальное в профессиональном отношении. Сейчас не время большого полета и признания, много препятствий. Супрут или небезразличный вам человек делает успехи по пути признания творческих заслут, на ниве науки, искусства или дипломатии. Да и вы можете поучаствовать на празднике, получить удовольствие от намечающегося сотрудничества.

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1778 Нумар падпісаны ў друк 28/10/2001 (15:00) Наклад – 9.900